ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 357 Год выд. XXXVIII | Люты 1989

## НАВІНЫ

Выданьне Арганізацыйнага камітэту.

1(3)1989

БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

## 15 ПУНКТАЎ ПЕРАДВЫБАРЧАЙ ПЛАТФОРМЫ БНФ

26 студзеня канчаецца тэрмін вылучэньня кандыдатаў у народныя дэпутаты СССР. А яшчэ праз два месяцы стане ясна, ці здольныя мы самі ствараць сваю гісторыю, альбо вартыя толькі таго, каб за казённыя маршы і буфэт у выбарчым участку аддаваць звыклыя 99,98 працэнта галасоў свайго бясправўя. Шмат хто нібыта і разумее гэта, але разьлічвае, што ў дзень выбараў перабудова і дэмакратыя прыйдуць самі сабой.

Тым часам зноў складаюцца кабінэтныя сьпісы з традыцыйнымі імёнамі ў іх. Справа тут, вядома, не ў пасобных непапулярных кіраўніках рэспублікі (пра такіх у народзе кажуць: «Пабыў у вадзе і ня мокры ідзе»; на іхным месцы нават члены буржуазных урадаў падалі-б у адстаўку), а у сыстэме. Бо нават калі мы пераменім усіх, а мэханізм улады пакінем някрануты, зварот да старога непазьбежны. Таму ніхто з нас не павінен застацца ў баку ад выбарчых справаў, у каторы раз аддаўшы ініцыятыву ў рукі функцыянераў. Наш лёс будзе шмат у чым залежаць ад таго, як пройдуць выбары і хто будзе ў Вярхоўным Савеце СССР. Альбо там апынуцца людзі, здольныя толькі разважаць пра дэмакратыю і адначасна прымаць антыдэмакратычныя законы, альбо там стануць працаваць сумленныя абаронцы нашых чалавечых правоў і народнага лёсу.

Перадвыбарчая плятформа БНФ «Адраджэньне» грунтуецца на прынцыпах, абвешчаных яшчэ ў 1917 годзе: заводы — рабочым, зямля — сялянам, улада — народу.

1. Адна з галоўных задачаў перабудовы — вызначыць хто і на каго працуе. Недапушчальна, каб прадпрыемствы працягвалі заставацца прыдаткамі міністэрстваў. Толькі вызваленьне эканомікі ад ведамасных путаў можа прывесьці да насычэньня ўнутранага рынку таварамі і росту жыцьцёвага ўзроўню. Дзеля гэтага дэпутаты, выкарыстоўваючы свае паўнамоцтвы, мусяць дабівацца радыкальнай эканамічнай рэформы, якая уключае ў сябе поўную гаспадарчую самастойнасьць прадпрыемстваў і поўную адказнасьць рэспублік за сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё сваіх тэрыторыяў.

2. Неабходна прыняць Закон аб арэндзе прадпрыемстваў працоўнымі калектывамі. Калектывы павінны таксама атрымаць права пераходзіць на каапэратыўныя ўмовы дзейнасьці. Пасьля гэтага яны пазбавяцца падпарадкаваньня міністэрствам і ведамствам, стануць самастойныя, атрымаюць рэальную магчымасьць пераходу на гаспадарчы разьлік, і іх дзейнасьць будзе рэгляментавацца Законам аб каапэрацыі.

3. Сталінізм і стагнацыя нанесьлі вялізарную шкоду сельскай гаспадарцы. Сяляне былі адчужаныя ня толькі ад зямлі, але і ад плёну свае працы. Цэнтралізаваныя разнарадкі і нізкія закупачныя цэны не дазвалялі ім самым вырашаць, што сеяць і вырошчваць, каму і за колькі прадаваць сваю прадукцыю. Гэтае законнае права можа быць вернутае магчымасьцю ператварэньня існых сельскагаспадарчых прадпрыёмстваў у каапэратывы або фэрмэрскія гаспадаркі. Ім зямля павінна прадстаўляцца ў бестэрміновую арэнду (бяз права продажу) з правам спадкаваньня.

4. Мы стаміліся ад дэфіцыту. Не хапае элемэнтарных тавараў першай неабходнасьці, прадуктаў харчаваньня, кватэраў, дзіцячых садкоў і школаў. Немагчыма прадбачыць, што зьнікне з прылаўкаў заўтра. Дый хто можа паручыцца, ці не наўмысна арганізуецца дэфіцыт, каб падтрымліваць у людзей стан нэрвознай незадаволенасьці перабудовай? Спэцыяльныя дэпутацкія камісіі павінны публічна аналізаваць прычыны дэфіцыту, ажыцьцяўляць рэальны грамадзкі кантроль за якасьцю і колькасьцю прадуктаў і спажывецкіх тавараў. Неабходна прыняць дзейсныя захады, каб прадукцыя, выробленая ў рэспубліцы, не рабілася дэфіцытнай для самых вытворцаў.

*(Заканчэньне на 4-й б.)*

А. Н.

### САМОТА

*(санэт)*

*Мне рэжа слых мана прамоў*
*трaскотных,*
*Мне сьлепіць вока яркасьць кумача —*
*Даўно мне ўсё абрыдла апрача*
*Маўклівай няпрытомнасьці*
*самоты.*

*І ўсё-ж, калі-б у цішыні дрымотнай*
*Турыны рог прызыўна загучаў*
*І на лязе узьнятага мяча*
*Запалымнелі водсьветы*
*паходняў, —*

*Я ўсе сумненьні адгарнуў-бы разам*
*І стаў пад белы сьцяг з чырвоным*
*пасам:*
*Пад бел-чырвона-белы вольны*
*сьцяг...*

*Чырвоны пас на белым тле Радзімы,*
*Ты клічаш нас за волі міг адзіны*
*Узьняцца і загінуць без развагі!*

## ДРУГІ ВАЛЬНЫ СОЙМ НЕФАРМАЛАЎ




*У залі паседжаньняў. Ідзе нарада.*



*Сцэна ў цягніку падарозе ў Вільню. Салдаты-спадарожнікі чытаюць «Кантроль», бюлетэнь Таварыства Маладых Літаратараў «Тутэйшыя».*

У Вільні 15-16 студзеня сёлета адбыўся зьезд нефармальных аб'еднаньняў беларускае моладзі. Віленская расейскамоўная газэта «Комсомольская Правда» (якая выходзіць таксама й палітоўску) у нумары за 20 студзеня зьмясьціла рэпартаж пра зьезд В. Вайнэрытэ пад заг. «Хачу гаварыць роднай мовай». Рэпартаж пачынаецца гэтак:

«Над уваходам у дом на вуліцы Камунару разьвіваўся бел-чырвона-белы сьцяг — нацыянальны сьцяг Беларусі. На лесьвіцы, што вяла ў залю, гучэлі хуткія маладыя крокі — 66 маладзежных аб'еднаньняў з усіх канцоў Беларусі прыслалі на '2-гі Вальны сойм' 242 дэлегаты. 'У Менску моладзі было-б

*(Працяг на 3-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
«БЕЛАРУС» — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АБУДЖЭНЬНЕ, ЯГО НЯ СПЫНІШ. ЯНО ПАДСПУДНА ТЛЕЛА, НЕЗВАЖАЮЧЫ НА ЎСЕ ГЭТЫЯ РЭПРЭСІІ, ЗАБАРОНЫ. НАЙМЕНШАЕ ПАСЛАБЛЕНЬНЕ ЦІСКУ І ЯНО БУДЗЕ ПРАБУДЖАЦЦА. І Я ЎСЁ-ТАКІ АПТЫМІСТ, Я ЦЕШУ СЯБЕ НАДЗЕЯЙ, ШТО БЕЛАРУСЬ УВАСКРОСЬНЕ, БЕЛАРУСЬ АДРОДЗІЦЦА — ЕЙНАЯ КУЛЬТУРА, ЕЙНАЯ МОВА, ХОЦЬ ГЭТА НАПЭЎНА ЗОЙМЕ ДАВОЛІ ШМАТ ЧАСУ. — **Міхал Кукабака** ў тэлефанічным інтэрв'ю Беларускай сэкцыі радыё «Свабода», 14.XII.1988.

# НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ РУХІ НАРОДАЎ СССР

**Віленская нарада**

28-29 студзеня сёлета ў Вільні адбылася чарговая нарада прадстаўнікоў нацыянальна-дэмакратычных рухаў народаў СССР. Упяршыню ў гэткай нарадзе ўзялі прадстаўнікі Беларусі: Сяржук Мехамес і Вадзім Александровіч ад клюбу «Пагоня» і газэты «Беларуская Трыбуна».

Нарада прыняла зварот «Да ўрадаў і народаў сьвету: Хартыя Свабоды Паняволеных Народаў СССР». Ніжэй зьмяшчаем гэты дакумэнт, як яго падало, разам з паведамленьнем пра нараду, замежнае прадстаўніцтва Украінскае Гэльсынскае Групы:

Мы, што сабраліся 28-29 студзеня 1989 году ў г. Вільні, прадстаўнікі народна-вызвольных рухаў Арменіі, Беларусі, Грузіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі і Ўкраіны, заяўляем аб стварэньні адзінага камітэту, які аб'ядноўвае нашыя намаганьні стварыць нацыянальныя свабодныя і незалежныя дзяржавы.

Мы пераконаныя, што нашыя народы ня толькі супольнае існаваньне ў рамках імпэрыі, але й фэдэратыўнае ці канфэдэратыўнае уладжаньне. Мы патрабуем палітычнага і маральнага падтрыманьня нашага руху ўсімі ўрадамі і грамадзкімі арганізацыямі. Мы спадзяёмся, што здабудзе перавагу нашае разуменьне сучаснага сьвету, паводля якога тольki свабоднае і незалежнае існаваньне, да якога імкнуцца народы, забясьпечыць стабільнае і мірнае разьвіцьцё ўсяго міжнароднага грамадзтва.

Мы заклікаем суайчыньнікаў, што жывуць цяпер за межамі імпэрыі, да стварэньня падобнага камітэту і цеснага супрацоўніцтва з намі для дасягненьня агульнай мэты. Мы просім Паруйра Айрыкяна быць нашым прадстаўніком за межамі і паспрыяць стварэньню гэткага камітэту.

«Гэта не працэс іншадумства — тое, што адбываецца ў Эстоніі, гэта нармальнае палітычнае жыцьцё. Праблема тут у тым, каб запэўніць будучыню эстонскаму народу. Мы ня можам рухацца толькі ў адным кірунку да расейскае мовы. Гэты закон пакажа шлях да білінгвізму». — Мік Тытма, новаабраны сакратар да справаў ідэалёгіі ЦК кампартыі Эстоніі, тлумачачы прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі новы закон аб афіцыйным статусе эстонскай мовы. («Лёс-Анджэлес Таймс», 19.I.1989)

Гісторыя паказала, што само існаваньне шматнацыянальнай імпэрыі — гэта анахранізм, які стварае нязносныя ўмовы для ўсіх народаў, што яе насяляюць. Мы ўважаем, што плюралізм становіць такі-ж асноватворны прынцып у міжнацыянальных дачыненьнях, як і ў галіне правоў чалавека. Пацьвярджаючы для кожнага народу права на індывідуальны шлях разьвіцьця, мы аднак прадстаўляем рухі народаў, якія дзесяткі гадоў змагаюцца за нацыянальную незалежнасьць. Нікому не навязваючы сваіх уяўленьняў пра дзяржаўны лад і сувэрэнітэт, мы ўважаем за няпрыймальнае для прадстаўляных намі народаў...

...ды здабудуць свабоду, і спадзяёмся, што дасягнем гэтага ў бліжэйшай будучыні і негвалтоўнымі мэтадамі.

Ад імя беларускага клюбу «Пагоня» й газэты «Беларуская Трыбуна», разам з 12 іншымі прадстаўнікамі, зварот гэты падпісаў Сяржук Мехамес. Вадзім Александровіч увайшоў у склад васьміасабовага каардынацыйнага камітэту, адным з заданьняў якога будзе правесьці наступную падобную нараду, што запланаваная на 30 красавіка — 1 травеня 1989 г. ў Таліне.

Нарада прыняла таксама зварот «Да расейскае інтэлігенцыі».

## МАСАВАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ Ў МЕНСКУ

Паводля інфармацыі, атрыманай зь Менску па тэлефоне Беларускай рэдакцыяй радыё «Свабода» ў Мюнхене, 50 тысячаў людзей прадэманстравалі ў нядзелю 19 лютага на менскім стадыёне сваё падтрыманьне Беларускага Народнага Фронту. Маніфэстацыя была арганізаваная беларускімі нефармальнымі групамі.

Менскі журналіст сказаў, што гэта была першая дэманстрацыя, якая адбылася з заволу ўладаў. Мэтай дэманстрацыі было скансалідаваць дэмакратычныя сілы Беларусі ды зьвярнуць увагу на экалягічныя, палітычныя і сацыяльныя праблемы, а таксама на новую выбарчую сыстэму.

Некаторыя ўдзельнікі дэманстрацыі несьлі бел-чырвона-белыя сьцягі, гэрб «Пагоня» ды транспаранты з дамаганьнямі сувэрэннасьці Беларусі, новае канстытуцыі для рэспублікі і афіцыйнага статусу беларускае мовы.

Пра дэманстрацыю паведамілі таксама некаторыя заходнія органы друку, падаючы, што ўдзельнікаў было 30 тысячаў.

## МОЛАДЗЬ ЗМАГАЕЦЦА ЗА СЬЦЯГ

На вялікім мітынгу ў Доме палітычнай асьветы ў Менску 22 кастрычніка летась, на якім дэбатавалася пытаньне стварэньня Народнага фронту ў падтрыманьне «перабудовы», рабочы й адначасна студэнт менскага прамыслова-тэхнічнага вучылішча А. Сяргееў расказаў пра гэткі выпадак (з асуджэньнем яго):

«Нядаўна ў нашым вучылішчы былі госьці — выступалі ансамблі 'Мроя', 'Рэй' і нікому не вядомая група 'Мясцовы час' з Горадні. Там-жа круціліся хлопцы з 'Талакі'. калі падлеткі адурэлі ад страшэннага грукату, паявіўся на сцэне малады чалавек і пачаў размахваць бел-чырвона-белым флагам — сымвалам беларускіх буржуазных нацыяналістаў». (*«Зьвязда»*, 27.X.88).

*Вершы зь Беларусі*

### КАБ СПРАЎДЗІЛАСЯ НА БЕЛАРУСІ Ў НОВЫМ, 1989 ГОДЗЕ!..

Каб чыстым дыхалі паветрам
і грудзі нашы й нашы душы,
каб зьніклі ўсе, хто нашы нетры,
балоты і лясы парушыў.

Каб зноў сьпявалі нашы вёскі,
у рэчках каб сінелі хвалі...
Каб лёсаў нашых не зламалі
Язэпа-ката падгалоскі...

Каб зьбёг, нарэшце, у адстаўку
наш «вечны ідэёлух» — Саўка*...
(Чацьвёрты год перабудовы —
а ён, як і заўжды, гатовы
крышыць ушчэнт свабоду слова —
цяпер — у хэўры Сакалова**)...

* Савелій Паўлаў, загадчык адзьдзелу прапаганды й агітацыі ЦК КПБ.
** Яфрэм Сакалоў, першы сакратар ЦК КПБ.

### НАКАЗ НАРОДНЫМ ДЭПУТАТАМ:

Адстаўка — ўсім цэнзурным катам,
што гвалцяць бедную культуру —
ад невуцтва і проста здуру!..

...Культурай правіць той, хто піша
раманы, вершы і карціны...
хто вызначае пуцявіны
ў абшар духоўнага Узвышша...
і толькі ён — душы ахоўнік —
народу — прама і адкрыта —
а не праз цэнзарскае сіта —
перадае свой плён духоўны...

Зямлю — сялянам, і — навечна!..
(каб бюракрат яе ня нішчыў)...
Заводы — тым, хто недарэчна
ад іх адчужаны фактычна...

А Ўладу — вечнаму Народу!..
Вам, хто на выбарах
сапраўдных —
ад мафіёзі апаратных —
ачысьціць грэшную Свабоду!..

***Занатаваў у Калядную ноч, падслухаўшы Голас Народу, — ВЯДЗЬМАК МЕНСКІ***

## *ПРАЕКТ ПОМНІКА КАСТРЫЧНІКУ*

У Менску ў студзені адбылося абмеркаваньне розных праектаў помніка «барацьбітом за Савецкую ўладу». Найбольш папулярным выявіўся праект, у якім, паводля газэты «ЛіМ» (27.I), «Аўтары прапануюць устанавіць на адносна нявысокім пастамэнце шматфігурную кампазыцыю, якая-б сымбалізавала непарыўную сувязь розных этапаў барацьбы беларускага народу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Вялікі Кастрычнік не супрацьпастаўляецца ўсёй папярэдняй гісторыі, а разглядаецца як яе лягічны працяг. Паўстанцы Касьцюшкі і Каліноўскага побач з гэроямі рэвалюцыі 1905 і 1917 гадоў — такая ідэя помніка.

***Новая публікацыя***

**BYELORUSSIAN STATEHOOD**
**Reader and Bibliography**
Edited by
**Vitaut Kipel and Zora Kipel**

Выданьне Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва коштам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

398 бб., карта, ілюстрацыі, дадаткі.

У кнізе: артыкулы, дакумэнты, успаміны, біяграфіі дзеячоў БНР, бібліяграфія — зь гісторыі і да гісторыі беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці.

Цана кнігі: 25 ам. дал.
Замаўляць: BiNiM
230 Springfield Ave
Rutherford, N. J. 07070
U.S.A.

## *ПРАГРАМА АДРАДЖЭНЬНЯ МОВЫ*

Напрыканцы году летась у Лёндане выйшла вялікага фармату брашура (32 бб.): «Нацыянальная мова ў сацыялістычнай дзяржаве». Гэта, як сказана ў падзагалоўку, «Дакумэнт аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі». Выдала гэтую публікацыю Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі.

З уводнага слова даведваемся, што ў красавіку летась моўная камісія Беларускага Фонду Культуры (БФК быў заснаваны ў красавіку 1987 г.) выпрацавала праграму адраджэньня беларускай мовы, але дасюль гэтая праграма не пабачыла сьвету ў друку БССР. «Праграма моўнай камісіі, — як пасьняюць выдаўцы брашуры, — зьяўляецца спробай аналізу сучаснага трагічнага стану беларускай мовы ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця». У ёй пералічаецца цэлы шэраг мерапрыёмстваў да адраджэньня мовы.

Дакумэнт выйшаў зь перакладам яго ў ангельскую мову. Лёнданскія Беларусы і ангельскія прыяцелі Беларусі зрабілі вельмі карысную справу апублікаваньнем гэтага нязвычайна важнага дакуманту.

## *ПАДЗЯКА АД ПРЭМ'ЕРА М. ТАЧЭР*

Брытанскі прэм'ер Маргарэта Тачэр і міністар замежных справаў сэр Джофры Гаўэ выказалі пісьмовую падзяку Згуртаваньню Беларусаў у Вялікабрытаніі (старшыня сп. Я. Міхалюк) за атрыманую публікацыю «Нацыянальная мова ў сацыялістычнай дзяржаве. Дакумэнт аб стане беларускай мовы ў Савецкай Беларусі». Дакумэнт гэты ЗБВБ выдала асобнай брашурай з поўным перакладам у ангельскую мову.

# 8-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

**(Сыднэй, 12-15 студзеня 1989 г.)**

## АФІЦЫЙНАЯ ЧАСТКА

Першы дзень Сустрэчы пайшоў на спатыканьне й раскватэроўваньне гасьцей. Афіцыйнае адкрыцьцё адбылося 13-га студзеня ў будынку Беларускага Культурна-Грамадзкага клюбу. Старшыня арганізацыйнага камітэту сп. М. Ціхан, прывітаўшы ўдзельнікаў, перадаў слова сп. А. Грушу, старшыні выканаўчага камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Сп. Груша падзякаваў усім за прыбыцьцё ды пажадаў памыснасьці ў нарадах і ў агульным прабегу Сустрэчы. За старшыню зьезду быў абраны адзіны кандыдат сп. У. Сідлярэвіч. Неўзабаве мандатная камісія ўстанавіла, што на зьезьдзе ёсьць прадстаўнікі 12 арганізацыяў з чатырох штатаў аўстралійскай фэдэрацыі. Із справаздачаў і выступленьняў удзельнікі даведаліся, што вык. камітэт свае абавязкі выконваў добра, стан касы за справаздачны пэрыяд папраўіўся, у сувязі з чым папярэдняму кіраўніцтву было прызнанае абсалюторыюм з падзякай. Адбыліся выбары ў вык. камітэт. На старшыню, ужо трэці раз, быў абраны сп. Аўген Груша, на сакратара — сп. П. Гуз, на скарбніка — сп. У. Сідлярэвіч. У рэвізійную камісію ўвайшлі сп.сп. У. Шнэк, Я. Гавенчык і А. Грыцук.



*Сп. Мікола Нікан чытае даклад.*

У пляне працы абмяркоўваліся пытаньні: 1. Выдаваньне інфармацыйнага бюлетэню. 2. Спроба заснаваньня беларускае арганізацыі ў Ньюкастле. 3. Наладжаньне выстаўкі ў эміграцкім музэі ў сталіцы Канбэры. 4. Заходы перад прадстаўнікамі ў парлямэньце аб праве на сталае асяленьне імігрантаў зь Беларусі.

Была выбраная рэзалюцыйная камісія ў складзе сп.сп. М. Нікана, У. Сідлярэвіча і М. Лужынскага.

## БАЛЬ СУСТРЭЧЫ

Увечары 13-га адбылася супольная вячэра, на якой было каля 200 асобаў (шкада, што ніхто не дадумаўся зрабіць здымку са страваў, запраўды банкетных, нарыхтаваных нашымі «залатымі ручкамі»). Бяседа трывала да поўначы «пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай». Ад 8-ай гадзіны грала аркестра нашага земляка Андрэя Мацюкевіча, пад гукі якое танцавалі і тыя, што на другім дзясятку гадоў, і тыя, што на дзявятым.

У перапынках паміж танцамі былі мастацкія выступленьні: салёвыя песьні Надзеі Грушы й Олі Русак; Аўген Груша прадэклямаваў два патрыятычныя вершы, а тады з жонкай укралі першую ўзнагароду за камічную песенную сцэнку «Сабірайся ў госьці, мой дзядок».

Пад поўнач зьявіўся Дзед Мароз (Мікола Антух) і, пасьля гутарак з малодшымі, зь вялікае торбы раздаў падарункі тым жанчынам, што найбольш спрычыніліся да наладжаньня Сустрэчы.

Роўна апоўначы згасла сьвятло і зазьзялі халодныя агеньчыкі, раней уручаныя кожнай дзяўчыне й жанчыне. «З Новым Годам! З Новым Годам!» — панеслася па ўсёй залі, бо-ж гэта быў Новы Год паводля старога календара. Танцавалі й весяліліся да першай гадзіны, закончыўшы гэты незабыўны дзень — усе пасярэдзіне залі — супольным сьпевам «Люблю наш край»...

## ПІКНІК

Наступны дзень, сыбота, быў днём пікніку. Адбыўся ён у парку, дзе мы спраўлялі падобны пікнік шэсьць гадоў таму. Як-жа тут усё зьмянілася! Дрэўцы, што былі тады хіба пасаджаныя, вырасьлі да 5-6 мэтраў, усюды шмат ценю, падкошаная трава, вельмі раскошна й прыемна. Неўзабаве распалілі печкі, пачалі сквірчаць каўбаскі, мяса. Усе нашы людзі любяць прыроду і кожны меў з сабой патрэбныя для маёўкі прылады. Надвор'е было як на заказ. Дзень прайшоў у гутарках, гамане, пагулянках. Разьяжджаліся дадому, адпачыўшы й наталіўшы душу.

## БАГАСЛУЖБА. ДАКЛАД ПРА БЕЛАРУСЬ

Апошні дзень Сустрэчы — нядзеля. У Бэнстаўнскай праваслаўнай царкве а. Веніямін адслужыў малебен за беларускі народ, прывітаў зьезд Беларусаў. Надзвычайна мілагучна пяяў хор, падмацаваны гасьцямі.

Апаўдні ў залі Беларускага Клюбу разьвітальны абед. Адкрыў яго кароткім словам старшыня арганізацыйнага камітэту, прапяялі нацыянальны гімн, а. Веніямін блаславіў сталы.

Сп. Мікола Нікан прачытаў даклад на тэму «Сучасны стан у Беларусі». Пасьля ўздымаліся дзясяткі тостаў, вяліся гутаркі, чуліся жарты, песьні — усюды вясёлыя твары радасных людзей — аж да зморку.

Перад тым як закончылася афіцыйная частка М. Лужынскі зачытаў рэзалюцыю, якая была аднагалосна прынятая.

Удзельнікі Сустрэчы склалі на пабудову беларускага музэю ў Гайнаўцы на Беласточчыне каля 400 даляраў.

**М. Л.**

---

*З жыцьця ў Лёндане (Анг.)*

# УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ СТАЛІНСКАГА ТЭРОРУ

Зь ініцыятывы старшыні ЗБВБ сп. Янкі Міхалюка 28 студзеня сёлета быў наладжаны вечар, прысьвечаны Беларусам, што загінулі ў часе сталінскага тэрору.

У беларускай царкве сьв. Пятра й Паўла а. Аляксандар Надсон адслужыў паніхіду, на якой было шмат Беларусаў, а таксама прыяцелі-Ангельцы.

Пасьля службы ў залі Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны а. Аляксандар зрабіў даклад аб сучасным стане ў Беларусі.

Дакладчык расказаў, як ідзе змаганьне ў БССР за родную мову. Працэс аднаўленьня мовы й народных традыцыяў, сказаў ён, вельмі павольны, вялікі супраціў бюракратаў. Гэтак, прыкладам, праграма моўнай камісіі Беларускага Фонду Культуры, прынятая ў красавіку 1988 году, дасюль яшчэ не апублікаваная (яна выданая асобнай брашурай з ангельскім перакладам у Лёндане).

Прысутныя на дакладзе маглі азнаёміцца з навейшымі выданьнямі зь Беларусі: бюлетэнем маладых літаратараў «Кантроль», заклікам Ініцыятыўнае групы канфэдэрацыі Беларускіх супалак, адозвай Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту, першымі двума нумарамі часапісу «Студэнцкая Думка» ды іншымі новымі публікацыямі.

Зь Вільні ў Скарынінку быў прысланы бел-чырвона-белы сьцяжок і гэрб «Пагоня» (кераміка) ад удзельнікаў праведзенага там другога Вальнага Сойму беларускіх нефармальных арганізацыяў. У Горадні моладзь носіць «Пагоню», як нагрудную аздобу.

**А. Зданковіч**

---

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

### 8-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

1. Мы, удзельнікі 8-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, ухваляем галоснасьць і перабудову ў Савецкім Саюзе і на нашай Бацькаўшчыне ды намагаемся гэтыя зьмены падтрымоўваць і прысьпяшаць, асабліва ў адносінах да нашай мовы, якая павінна быць дзяржаўнай мовай Савецкай Беларусі.

2. Мы заклікаем савецкі ўрад стварыць палітычны плюралізм, даць поўную свабоду веравызнаньня, гарантаваць правы чалавека ды вызваліць усіх рэлігійных і палітычных вязьняў.

3. Мы заклікаем савецкі ўрад захоўваць і рэстаўраваць гістарычныя помнікі Беларусі, а таксама захаваць экалягічны балянс прыроды краю.

Пацьвярджаючы ўсё вышэй сказанае, удзельнікі 8-й Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, разам зь Беларусамі ўва ўсім вольным сьвеце, заяўляюць, што галоўнай нашай мэтай ёсьць дасягненьне Свабоды і Незалежнасьці Беларусі.

---



---

# ДРУГІ ВАЛЬНЫ СОЙМ НЕФАРМАЛАЎ

*(Заканчэньне зь 1-ай б.)*

вельмі цяжка правесьці гэты свой зьезд, — расказваў Сяргей Вітушка. — Праўда, гарвыканком у адказ на нашу просьбу даць нам памешканьне, даў нам яго, але толькі на адзін дзень, дый то сяроддзе працоўнага тыдня».

Арганізатары зьвярнуліся тады праз віленскі клюб «Сябрына» да кіраўніцтва Літоўскага Руху за Перабудову «Саюдзіс», якое й выдзеліла памешканьне — задарма (менскія-ж бюракраты загарадзілі цану — паўтары тысячы рублёў).

Карэспандэнтка літоўскай газэты піша, што ў вэстыбюлі будынку, дзе адбываўся зьезд, прадаваліся бюлетэні незалежнага інфармацыйнага цэнтру Беларускага Народнага Фронту, мэдалі з нацыянальным гэрбам Беларусі («Пагоня»), значкі й эмблемы з калёрамі нацыянальнага сьцягу. Запамятаўся ёй адказ адное маладое дзяўчыні на пытаньне: «Чаму вы тут? Пасьля стомнага, даўгога, ранішняга шляху, ахвяраваўшы сваймі выхаднымі?»Тая адказала: «Я хачу адчуваць сябе вольнай на сваёй зямлі, ведаць запраўдную гісторыю свайго краю, гаварыць роднай мовай».

Паводля інфармацыі, якую «Беларус» дастаў ад «Саюдзіса», на зьезьдзе ў Вільні было «каля 300 асобаў, у тым ліку прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту (які налічвае цяпер да 30 тыс. сяброў) і госьці ад 'Саюдзіса'». З прывітаньнем на зьезьдзе выступіў сп. Чэсловас Кудаба, член парлямэнту «Саюдзіса».

Другі Вальны Сойм прыняў шэраг рэзалюцыяў, аналягічных да рэзалюцыяў Літоўскага Руху за Перабудову — аб дзяржаўнасьці беларускай мовы, сувэрэннасьці рэспублікі ды аб экалёгіі.

Вялікі матар'ял пра зьезд беларускае моладзі ў Вільні зьмясьціла газэта «Правда» (17.I). Праўдаўскі карэспандэнт А. Уліцёнак піша:

«Выйшаўшы зь цягніка ў Вільні, я быў зьдзіўлены: здавалася, уся станцыя гаворыць пабеларуску — гэткага ў Менску не пачуеш! Я ўліўся ў густы паток пасьвяточнаму настроеных 20-30-гадовых людзей. І вось мы ў літоўскім рэспубліканскім Палацы культуры працаўнікоў аграпрому.

«Сцэна ўпрыгожаная нацыянальнай сымболікай — тэй самай, аб якой дома, у Менску, не перастаюць кіпець жарсьці».

Пераказаўшы з вуснаў удзельнікаў зьезду, пры якіх абставінах дайшло да пераносу «сойму» зь Менску ў Вільню ды якія праблемы на зьезьдзе разглядаліся, карэспандэнт «Праўды» зазначыў:

«Было ясна: беларускую моладзь цікавілі не надуманыя, высмактаныя з пальца, а рэальна існуючыя ў рэспубліцы праблемы, што вымагаюць асэнсаваньня розных глебзішчаў, прыняцьця супольна выпрацаваных пастановаў. Дзеля гэтага якраз, на думку прадстаўніка ЦК КП Літвы, гэтая гутарка прынесла-б куды больш карысьці, калі-б яна адбылася ў Менску з удзелам партыйных, савецкіх, гаспадарчых, працаўнікоў».

Бяда ў тым, аднак, што ў Менску — яшчэ ўсё засільле сталінцаў-рэакцыянераў і халуёў...

# «НЕФАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСЫ»

*(Заканчэньне; пачатак і працяг у №№ 349, 351 і 355)*

**Віктар Івашкевіч,** *[кіраўнік школьнага клюбу «Касінер» за «круглым сталом» часапісу «Нёман»]:* Я прадстаўляю новаарганізаваны клюб «Касінер» пры сярэдняй школе. Але застаюся і сябрам «Талакі», якая, дарэчы, памагае стварэньню новых клюбаў. Бо-ж сама «Талака» да бесканечнасьці расьці ня можа. Калі я пачаў арганізаваць новы клюб, пайшоў у школу, стаў гутарыць з вучнямі, у іх адразу ўзьнікла пытаньне: «А ці не здаецца вам, што гэта вельмі вузкі падыход — мова? Ну, будзе ўсё ў беларускай мове, ну і што?» Гэта правільнае пытаньне. Аб'ектыўна, калі рух наш хоча існаваць і пашырацца, яго павінна жывіць ня толькі мова. У беларускай мове могуць быць выдрукаваныя й працы Лысенкі, але ці будзе гэта дасягненьнем? Яго павінна жывіць — і гэта легла ў аснову нашага клюбу — актыўная грамадзянская пазыцыя і ў разьвязваньні ўсіх тых набалелых пытаньняў, якія ёсьць у нашым грамадзтве: культурных, палітычных, эканамічных, сацыяльных. Ня то што мы можам гэтыя праблемы разьвязаць. Але мы павінны ўзгадоўваць тых, хто іх будзе разьвязваць і на сваім заводзе, у сваёй навучальнай установе будзе дамагацца запраўднага самакіравецтва, выбарнасьці кіраўнікоў, дэмакратычных свабодаў, якія дэкляраваныя ў нашай канстытуцыі, але якія да пэрыяду перабудовы й публічнасьці заставаліся для рознага ўзроўню бюракратыі чымсьці непажаданым. (...)

**«Нёман»:** А якія формы працы вызначае для сябе «Штука»?

**Алесь Костка** *[студэнт тэатральна-мастацкага інстытуту]:* Прыкладам, да «Вальнага сойму» «Штука» распрацавала эмблемы гэтай сустрэчы і некаторых клюбаў, нарыхтавала памяткавыя мэдалі. Арганізавалі выстаўку маладых мастакоў. Грошы ад прададзеных мэдалёў перавялі ў Беларускі Фонд Культуры на пабудову помніка К. Каліноўскаму ў Менску. Зьбіраемся адзначыць юбілей выдатнага беларускага мастака Язэпа Драздовіча.

**«Нёман»:** Якой выдаецца вам будучыня руху і вашая асабістая будучыня?

**Алесь Гуркоў** *[старшыня экааб'яднаньня «Сьвітанак» пры тэхналягічным інстытуце]:* Перабудова адчыняе шмат якія магчымасьці, хоць аб канкрэтных дасягненьнях гаварыць зарана. Ну, а малады чалавек заўсёды будзе задаваць сабе пытаньне: чым мой народ адрозьніваецца ад іншых, дзе ягоная мова, культура, гісторыя? (...)

**Сяржук Вітушка** *[кіраўнік гісторыка-культурнага аб'яднаньня «Талака»]:* (...) Лёс нашых клюбаў? Прыйдзе пара дасьпеласьці, хтосьці з нас будзе прафэсіянальна займацца гісторыяй, хтосьці мовай, хтосьці журналістыкай. А ў клюб на нашыя месцы прыйдуць маладыя. Бальшыня-ж «нефармалаў», а бальшыня ў нас — не гуманітары, стануць сьведамымі грамадзянамі, патрыётамі Беларусі. (...)

**Вітаўт Мартыненка** *[прадстаўнік рок-клюбу «Няміга», карэспандэнт газэты «Чырвоная Зьмена»]:* Пэрспэктывы рок-клюбу... Музыкам патрэбная свая трыбуна. І ў гэтым сэньсе нас не задавальняе тое, што ў магазыне грамкружэлак можна знайсьці і туркменскія запісы, і фінскія, і японскія, а беларускіх — няма. Можна знайсьці «Верасы», але не ў беларускай мове. У нас няма студыі... Тымі-ж сталінскімі часамі люстэркавая хвабрыка ў Менску выпушчала дыскі, цяпер-жа мы ня тое што дыску, а й запісу зрабіць ня можам. Усё гэта робіцца дзе-небудзь на кватэры. Паколькі 16-каналавага магнітафону няма, бяруць 16 аднаканалавых. І гэта бяда ня толькі рок-музыкаў. У няс няма запісаў літаратурных твораў, казак, дыяфільмаў. Стваранцца беларускія сем'і і апынаюцца ў няроўных умовах з расейскамоўнымі сем'ямі. (...)

**«Нёман»:** За некалькі гадоў, якія існуе рух, напэўна, ужо вызначыліся тыя людзі й тыя сілы, якія памагаюць вам, і тыя, якія мяшаюць...

**В. Мартыненка:** Кожны клюб існуе сам па сабе. Менавіта таму ён і завецца нефармальным. Праблема ў тым, каб не перашкаджалі. А тых, хто памагае вельмі мала. (...) *(Працяг на 7-й б.)*

# 15 ПУНКТАЎ ПЕРАДВЫБАРЧАЙ ПЛЯТФОРМЫ БНФ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

5. У краіне адбываюцца грубыя парушэньні сацыяльнай справядлівасьці. Дакуль можна мірыцца зь існаваньнем закрытых разьмеркавальнікаў, спэцлячэньня, спэцзабесьпячэньня і іншых спэцвыгадаў? Неабходна неадкладна адмяніць сыстэму намэнклатурных партыйных дзяржаўных і ведамасных пасадаў і зьвязаных зь імі сацыяльных прывілеяў. Адзінай крыніцай росту дабрабыту чалавека павінны быць толькі зробленыя сумленнай працай грошы.

6. На працягу апошніх дзясяткаў гадоў мы адкладвалі на потым вырашэньне цэлага шэрагу сацыяльных праблемаў. Калі і сёньня праігнараваць іх, выбух будзе непазьбежны. Неабходна:

- узаконіць абавязковую дзяржаўную кампэнсацыю росту індэксу цэнаў падвышэньнем заработнай платы;
- гарантаваць пяцідзённы рабочы тыдзень для ўсіх катэгорыяў працоўных;
- рэфармаваць сыстэму пэнсійнага забесьпячэньня: пэнсіі павінны складаць ня менш як 60% ад сярэдняга заробку чалавека і расьці прапарцыйна росту цэнаў;
- падвысіць заработную плату высокакваліфікаваным работнікам разумовай працы: інжынерна-тэхнічным работнікам, настаўнікам і выкладчыкам, работнікам культурнаасьветнай сфэры, навуковай і творчай інтэлігенцыі, а таксама малодшаму мэдыцынскаму пэрсаналу;
- узаконіць 24-дзённы мінімальны чарговы адпачынак для ўсіх катэгорыяў працоўных, у тым ліку вайскоўцаў тэрміновае службы;
- рэзка павысіць узровень масавае пазаведамаснае мэдыцынскае абслугі і заканадаўча замацаваць яе бясплатны мінімум у адпаведнасьці са стандартамі і рэкамэндацыямі Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя;
- пашырыць правы спадчыны на членаў жыльлёва-будаўнічых каапэратываў і адмяніць дзяржпошліну на пераход жыльля па спадчыне;
- заканадаўча замацаваць права маці мець трохгадовы (у пэрспэктыве — сямігадовы) аплочаны адпачынак для догляду дзіцяці. За кошт пераразьмеркаваньня грамадзкіх фондаў скарэціць (пры захаваньні заробку) працоўны дзень жанчын, што выхоўваюць непаўналетніх дзяцей.

7. З агульнай тэрыторыі СССР, якая забруджана радыяцыяй пасьля аварыі ў Чарнобылі, найбольшая частка прыпадае на Беларусь. Астатняе — на Украіну і Бранскую вобласьць РСФСР. Дагэтуль няма цэласнага ўяўленьня пра радыяцыйную сытуацыю ў гэтых раёнах. З упэўненасьцю можна сказаць толькі тое, што яшчэ не адно пакаленьне Беларусаў і Украінцаў будзе ставіцца да разьвіцьця «мірнага атаму» са змрочнай іроніяй. Неабходна прыняць дзейсныя захады дзеля тэрміновага выпраўленьня экалягічных, сацыяльных, псыхалягічных і мэдыцынскіх вынікаў аварыі:

- абвясьціць зонай трывогі ўсходнія раёны БССР (разам з суседнімі раёнамі УССР і РСФСР);
- сканцэнтраваць усе дадзеныя пра радыяцыйную забруджанасьць у адным міжведамасным цэнтры (напрыклад, Дзяржкампрыроды БССР) і надаць яму надзвычайныя паўнамоцтвы;
- скласьці і абнародаваць карты радыяцыйнай забруджанасьці;
- зь месцаў, дзе перавышаны ўзровень радыяцыі, тэрмінова выселіць дзяцей;
- забараніць у пацярпелых раёнах выраб сельскагаспадарчай прадукцыі;
- вылучыць зь дзяржаўнага бюджэту СССР значныя дадатковыя сродкі на ліквідацыю бліжэйшых і адлеглых вынікаў аварыі;
- абвясьціць мараторый на будаўніцтва АЭС і іншых экалягічна небясьпечных прадпрыемстваў на тэрыторыі БССР і прылеглых раёнах суседніх рэспублік, вылучыць бюджэтныя сродкі на разьвіцьцё экалягічна чыстай энэргетыкі.

8. Асноўную шкоду прыродзе Беларусі прыносяць заводы-гіганты, падпарадкаваныя саюзным міністэрствам і ведамствам. У Магілёве, Наваполацку, Салігорску, Гародні, Гомелі людзі захлынаюцца ад атруты і прамысловых выкідаў. Дзеля паляпшэньня экалягічнага становішча і прадухіленьня зьвязаных з міграцыяй сацыяльных праблемаў трэба дамагацца спыненьня будаўніцтва новых падобных прадпрыемстваў. У рэспубліцы наогул нельга будаваць прадпрыемствы, не забясьпечаныя мясцовай сыравінай і працоўнымі рэсурсамі. Саюзныя міністэрствы і ведамствы павінны кампэнсаваць шкоду, нанесеную прыродзе і здароўю людзей.

Дзеля рэалізацыі законнага права кожнага народу быць гаспадаром на сваёй зямлі трэба прыняць новы Саюзны дагавор, што ператворыць СССР у сапраўдны Саюз сувэрэнных савецкіх дзяржаваў, якім уяўляў яго У. І. Ленін. Саюзны ўрад павінен мець каардынацыйныя функцыі, а рэспубліка — валодаць правам вэта на рашэньні, што супярэчаць яе інтарэсам.

10. Адно са значных дасягненьняў дэмакратыі — прамыя і роўныя выбары. Неабходна перагледзець Закон аб выбарах, каб забясьпечыць свабоднае спаборніцтва паміж сабой усіх кандыдатаў, якія-б арганізацыі яны ні прадстаўлялі.

11. Падзеі 30 кастрычніка ў Менску, калі быў гвалтоўна разагнаны мітынг-рэквіем «Дзяды», яшчэ раз пацьвердзілі, што неабходна адмяніць закон аб парадку арганізацыі і правядзеньня мітынгаў і Закон аб спэцпадразьдзяленьнях.

12. Толькі нядаўна ў саюзным друку была шырока апублікаваная «Усеагульная дэклярацыя правоў чалавека», якую СССР падпісаў у 1948 годзе. Дагэтуль мала хто з нас знаёмы з поўным тэкстам Гэльсінскіх пагадненьняў 1975 году. Простая спроба чалавека выехаць за мяжу, пакрытыкаваць членаў ураду або скарыстаць права на свабоду друку расцэньваецца бюракратыяй амаль як замах на асновы сацыялістычнай дзяржаўнасьці. Неабходна:

- прыняць Закон аб свабодзе руху, скасаваць прапіску, забясьпечыць кожнаму грамадзяніну права выяжджаць у любую краіну і вяртацца на радзіму;
- прыняць Закон аб дзяржаўнай бясьпецы СССР, згодна зь якім Саветы будуць кантраляваць дзейнасьць КДБ;
- прыняць Закон аб друку, які-б забясьпечваў рэальную свабоду слова, права на здабыцьцё і пашырэньне інфармацыі;
- утварыць Канстытуцыйны суд СССР;
- прыняць Закон аб свабодзе сумленьня, які-б прадугледзеў вяртаньне гвалтоўна адабраных храмаў веручым і не дапушчаў вядзеньня атэістычнай прапаганды коштам дзяржаўных сродкаў;
- пасьля прыняцьця Канстытуцыяў саюзных рэспублік перадаць на ўсенароднае абмеркаваньне праект Канстытуцыі СССР, у якім будуць прадугледжаныя гарантыі ўсіх дэмакратычных свабодаў, раўнапраўнасьць любых палітычных і грамадзкіх арганізацыяў перад законам і дзяржавай.

13. Сталінізм, як антычалавечы дзяржаўна-палітычны рэжым, нанёс вялізарную шкоду ўсім народам. На Беларусі сымвалам сталінскага генацыду сталі Курапаты. Каб абудзіць сумленьне людзей, вярнуць ім годнасьць і павагу, не дапусьціць паўтарэньня трагедыі, неабходна:

- раскрыць архівы і апублікаваць усе зьвесткі і матар'ялы пра злачынствы сталіншчыны;
- дабіцца суда над Ёсіфам Сталінам і яго акружэньнем;
- у Канстытуцыі СССР павінна быць зробленая папраўка аб адказнасьці за злачынствы сталіншчыны, за прапаганду сталінізму, аб нераспаўсюджаньні на гэтыя злачынствы тэрміну даўнасьці;
- абавязак дзяржаўных органаў — праводзіць спрыяльную сацыяльную палітыку ў дачыненьні да пацярпелых ад сталінскага рэпрэсіўнага рэжыму, да непрацаздольных асобаў зь сем'яў закатаваных і забітых.

14. Ленінскія прынцыпы моўнай палітыкі прадугледжвалі адсутнасьць адзінай замацаванай законам дзяржаўнай мовы для саюзу раўнапраўных рэспублік і прыярытэт нацыянальных моваў на свіх гістарычных і этнічных тэрыторыях. Дзеля зьдзяйсьненьня гэтых прынцыпаў неабходна распрацаваць і прыняць Асновы моўнага заканадаўства.

15. Практыку ўсенароднага абмеркаваньня трэба распаўсюдзіць на ўсе законы, якія прымаюцца Вярхоўным Саветам СССР. Неабходна распрацаваць Закон аб рэфэрэндуме.

# ЛАРЫСА ГЕНІЮШ НА ДОПЫЦЕ

**Паэма**

***Ад Рэдакцыі:*** *Да нас гэты твор дайшоў без загалоўку. Ня ведамы нам і аўтар. Дык зразумела, безь ягонае згоды мы і друкуем паэму. Загаловак твору й вызначэньне жанру дала рэдакцыя «Беларуса».*

*Паэма напісана здольнай рукою і з глыбокім суперажываньнем. Гэта адзін зь лепшых твораў сучаснай беларускай паэзіі.*

Сярод загадаў чужых, нялюдзкіх,
Дзе права жыць нам даюць як ласку,
Стукоча сэрца пабеларуску —
І сэрцу цяжка.

Ад сіл варожых у краі грузка.
Народ зьняволіць, аднак, ня проста.
Стукоча сэрца пабеларуску:
за зьдзекі — помстай!

Ля ніў айчынных, забраных сёлаў,
за мову продкаў, што хочуць сьцерці,
пабеларуску — нясьцерпным болем —
крывавяць сэрцы.

* * *

Холад мне, холад у камэрах цёмных:
праз боль — да мэты,
сьлядоў шукаю на сьлізкіх сьценах
другіх паэтаў.

Сюды мучэньняў і сэрцаў тайны
яны прынесьлі,
ад іх цярпеньня, ад іх адчаю
ў камэрах — цесна...

Малая птушка дзюбкай аб шыбу
рве скамянеласьць —
мо прывітаньні нясе ад сына
майго нясьмела?

Страшныя рукі, чорныя рукі,
ліпкія пальцы,
не аплятайце ў сьмяротных муках
шыю дзіцяці!

* * *

Ня сьпяць начамі да сонца ўсходу
ўсё кажаны,
мяне начамі сьпіральлю сходаў
вядуць яны.

Допыты, допыты — хітрасьць і грозьбы,
стукне кулак,
толькі ва ўпарты лоб мой бясстрашны
ня б'юць аднак.

Дзікія вочы злосьцю шалеюць,
словы як бруд:
«Вы пакідайце свае надзеі
усе, хто тут!»

У лапах шалёных жыцьцё і доля
кожнага з нас.
О, лёс народу у паднявольлі
о, страшны час!

Крумкач крывавы, страшны Цанава,
я перад ім
ногі бы з ваты, сілы, здаецца,
няма зусім...

«На якой мове з табой гаварыць —
знаеш расейскую?
А можа выклікаць перакладчыка —
можа пачэску?»

Глядзіць у вочы... Не, не баюся!
«Ня ведаю рускай!
Вы-ж міністрам на Беларусі,
дык гаварэце, як тут належыць —
пабеларуску!»

Ад злосьці шэры, грыміць Цанава.
(Біч для народу, скула ліхая,
п'яўка у сэрцы!..)
...Судзьдзі — ня судзьдзі,
быццам ня людзі —
скалы судзяць:

«За беларускасьць няхай вам будзе
лет 25!»
Так, паўстагодзьдзя абаім — годзе...

* * *

Падымі свае вочы, паглянь,
стаў ля нас цень пакутаў і сьмерці.
Ля сьцюдзёных, зялёных палян
нам з табою ўжо век ня сустрэцца.
Ноч у Менску. На сьнезе агні —
прабіваюцца ў важкія вочы.
Канваіры з штыхамі і мы,
ды шчэ сына адзінага цень —
разам крочым...

Рукі выцягнеш — пуста аднак,
скажаш слова — ня будзе адказу,
а маленькі нябачны юнак
крочыць ножкамі босымі разам...

Празь белыя ночы і чорныя дні,
у думках, у сэрцах — заўсёды побач
туды, дзе жахліва зьвіняць кайданы,
будзе ісьці наш сынок на Поўнач...

Многа дзён, многа тыдняў і год
праз пакуты брысьці давядзецца,
разьдзяляць нашы лёд і дрот
нашу долю, і рукі, і сэрцы.

І калі завые пурга,
заскрыпіць па наёжаным дроце,
І закружыць у белых сьнягах
нас, шкілетаў у шэрым лахмоцьці.

Толькі ясны пра сына ўспамін
Нас, дабітых, галодных, халодных,
падтрымае ў адчаі хвілін
І падкажа, што жыць — неабходна.

* * *

Пішэце каб скалыхнула —
дзьверы прад вамі — насьцеж!
Кукобце нашу мінуласьць,
тварэце нашу сучаснасьць!

Брацьця мае па мове,
нашчадкі нашага Краю,
з адной мы крыві і косьці —
пра гэта напамінаю.

Няпраўдзе — чужацкай зброі —
не паддаецца дужы,
перамагаюць хлусьнёю
цёмных і безаружных.

Цемрадзь ізноў над намі,
недругі сьвет згасілі,
робяць нас халуямі
якія-б маўчалі бясьсільна.

А нам трэба быць гісторыяй,
а нам трэба быць сабою —
такімі як нашы продкі
ў крывавых баёх з ардою.

Пішэце болем народу,
пёры макайце ў сьлёзы
бярэце ў граніту цьвёрдасьць —
адважным нішто ня грозна!

Кукобце сны маладыя,
мову ратуйце зь «гета»,
зь ветрам ідуць слабыя,
мужныя — супраць ветру!

Шляхоў народу адвечных
ня зьменіць чужая фантазія,
душу не дамо калечыць —
Эўропа мы, а ня Азія!

Гляджу на нас, і мы, як пагарэльцы,
усё спаліў ліхі, чужы агонь,
толькі ў грудзёх абвугленыя сэрцы
яшчэ жывуць, шукаючы свайго.

Трасем вякі, каб не згарэць дарэшты,
мінуласьць наша — ня туманны сон:
на папялішчах тлеюць галавешкі
яшчэ дзяржаўных, але слаўных дзён.

І мы сваёй крывёй пажары гасім,
ля папялішчаў стаімо насьмерць.

Калі сыны жыцьцём бароняць уласным
зямлю дзядоў — народу не сатлець!

* * *

«Хто ёсьць Абрамчык, —
зласьліва енчыць, —
сват твой ці брат?»
«Хто ёсьць Абрамчык?
Друг мой Абрамчык.
І дэмакрат!

Стаю як у баі — не з палахлівых,
а ён як зьвер:
«Дзе ёсьць архівы? Аддай архівы
БНР!»
«Няма архіваў, годзе нажывы,
годзе глуміць!»
«Яна-ж як дама сябе трымае —
Біць яе, біць!»
«Я не баюся, чуеце, сьмерці,
мы будзем жыць,
на Беларусі ўсіх ня сьцерці,
не перабіць!»

Брэшуць навокал, сычаць бы зьмеі
ці крумкачы:
«Вопратку сьцягнем, біць цябе будзем,
лепей маўчы!»

Круціцца Коган і Харашавін,
каты з катоў,
па ўказу Цанавы кожны мяне зь іх
дабіць гатоў.

«На маё месца стануць другія,
біць — ваш удзел,
крык наш ня змоўкне, праўда ня зьгіне
са сьмерцю цел!

*(Працяг на 8-й б.)*

*Рэцэнзія*

# «СОНЕЧНАЯ ВЯЗЬ» ЯНА ЧЫКВІНА



Польскае выдавецтва «Поезежэ» (паазер'е) выдала летась зборнік паэзіі Яна Чыквіна, аднаго зь «белавежцаў». У кніжыцы 29 вершаў: беларускія арыгіналы й польскія пераклады.

На задняй вокладцы фатаграфія й даведка пра аўтара. Нарадзіўся ў 1940 г. ў Дубічах Царкоўных на Беласточчыне. Вышэйшую асьвету скончыў у 1964 г. на Варшаўскім унівэрсытэце, дацэнтам якога цяпер і працуе. Вершы Чыквін пачаў публікаваць у 1957 г., выдаў зборнікі «Іду» (1969), «Сьвятая студня» (1970), «Неспакой» (1977), «На парозе сьвету» (1983). Займаецца перакладамі з польскае і ў польскую.

Зборнік «Сонечная вязь» (блакітная вокладка якога запоўненая шматколернымі ластаўкамі ў палёце — прыгожая графіка Юліты Венх-Курловіч) — гэта сьветчаньне да балючага жывое сувязі паэта з прыродаю родных мясьцінаў, ростань зь якою чульвіла адгукаецца яму ў гарадзкім асяродзьдзі.

Сад мой, садок,
Душа найлепшая з душ,
Прыбяжы да мяне ў Беласток
У белай кашулі груш.

З усіх «белавежцаў» Ян Чыквін найбольш філязофскі. І элегійны, як пра гэта кажуць некаторыя загалоўкі: «Беластоцкая элегія», «Элегія фаталізму», «Элегія ночы». Але Чыквін — не мэлянхолік, ён любіць жыцьцё, бачыць рэчаіснасьць у ейных шмагранных выявах, разумее няўхільнасьць хады часу — «у вечнасьць ўсе мы жывём-паміраем» — і цешыцца, здаецца, усьведамленьнем гэтага паглыбленага кантакту з навакольным сьветам.

Ян Чыквін не сьпяшаецца із сваймі ўражаньнямі на паперу. Яны ў яго вынашаныя ў бегу дзён, думкі адточаныя й апранутыя ў багатую вобразнасьць. Ягоную здольнасьць да назіраньня і трансфармаваньня бачанага ў вобразы мы бачым у Вершы «Веравызнаньне». Апынуўшыся ў чужым горадзе, паэт, вызвалены ад сваіх «спраў і клункаў», захапляецца:

Архітэктураю чэрствых і незнаёмых твараў,
Астравамі непракіслай радасьці дзіцячай,
Буйнасьцю правакацый кшталтаў жаночых,
Колерам, духмянасьцю іх высокіх позіркаў...

Зь вершаў зборніка хочацца адзначыць актуальны сваім экалягічным трагізмам верш без загалоўку («О, стойкія дзеці пушчы»), «Шахматы» (пра ўраднікаў шахматнай дошкі, якія «стратэгіяй хітраць»), уніклівы «Адвечны дыялёг», сьмелую шчырасьць лірыкі каханьня.

Пераклады вершаў зрабілі Альжбета Фэліксяк (5 перакладаў), Мар'ян Юркоўскі (5), Ян Леоньчук (1), Ежы Літвінюк (2), Флёр'ян Неуважны (7) і Віктар Варашыльскі (9).

Пераклады ў бальшыні адэкватныя, асабліва спад пяра ведамых перакладчыкаў і паэтаў Варашыльскага і Неуважага. У некаторых выпадках праўда, польская мова зь ейным націскам на перадапошнім складзе не дае магчымасьці перадаць энэргію мужчынскае рыфмы.

Да мовы ў Чыквіна падыход творчы, асабліва ў прыметніках (ветрамузычныя, сонцапрамennyя, мёртвакаменныя — з чым перакладчыкі мелі цяжкасьць). Але аўтар дазваляе сабе й пэўную моўную недысцыплінаванасьць, недашліфованасьць радка (не адыходзь ў нябыт; стаіць ў Вачах; малітв; русыцызмы: удваём; бяжала).

Нямецкі філёзаф Мартын Гайдэгер у сваёй працы «Вытокі мастацкага твору» (1935-36 гг.) зазначыў, што функцыя паэзіі, як крыніцы праўды, у тым, каб знайсьці пачатак праўды, угрунтуваць яго і перадаць. Чыквінава «сонечная вязь», пазначаная назіральнасьцяй і ўдумлівасьцяй, якраз і выяўляе праўду: кідае промні сьвятла на аспэкты штодзёншчыны, над якімі мы раптам задумваемся і заўважаем іхную прывабнасьць або іхны глыбейшы сэнс. І за гэта мы яму ўдзячныя.

**Янка Запруднік**

> *«СТАН СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ, МОЖА, БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ІНШАЕ ХАРАКТАРЫЗУЕЦЦА МАГУТНЫМ ПРЫТОКАМ МАЛАДЫХ СІЛ — ТАЛЕНАВІТЫХ, АДУКАВАНЫХ АЎТАРАЎ ВА ЎСІХ ЖАНРАХ ЛІТАРАТУРЫ. У ГЭТЫМ ДОБРЫ ЗНАК, ЗАРУКА ЛІТАРАТУРНАЙ БУДУЧЫНІ БЕЛАРУСІ».* — **Васіль Быкаў** у інтэрв'ю газэце «Чырвоная Зьмена», 31.XII.88.

# ПЫТАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЕ БАГАСЛУЖБЫ

(Заканчэньне з № 355)

*Кружэлка-альбом «Похвала Белорусским святым», выд. «Мелодия», Ленінград, 1987.*

Нелітургічны канцэрт Н. Бутомы «Боже, во имя Твое спаси*мя» — твор важны й складаны, найдаўжэйшы (10 хвілінаў) на цэлай кружэлцы, напісаны ў стылі, які можа гучэць перастарэлым для заходняга вуха, але які ўсё яшчэ вельмі папулярны сярод беларускіх вернікаў.

Аляксей Туранкоў, бадай найвыдатнейшы зь беларускіх дарэвалюцыйных кампазытараў, прадстаўлены гімнам «Торжествуйте днесь», адпаведным для гэткага ўрачыстага адпраўленьня, але і ня тыповы і не найлепшы зь ягоных твораў (гэткіх, як прыкладам «Разбойника благоразумного» /1912/, «Днесь Христос» /1914/, «Дева днесь» /1913/). Напісаны ў позным *прыдворным* стылі, ён пазначаны пераменна-жвавымі рытмамі і ўзьнёслымі пасажамі зацяжных акордаў вельмі уласьцівых беларускім царкоўным хорам.

Другая кружэлка альбому (часткі 3-я й 4-я) складаецца з урыўкаў усяночнае службы й Сьв. Літургіі, адпраўленых Мітрапалітам Філарэтам на ўшанаваньне наноўстаноўленага сьвята Усіх Сьвятых Беларусі. Нажаль, прозьвішчы кампазытараў тут не пададзеныя, можа таму што бальшыня зь іх — Архангельскі («Хвалите имя Господне» — цудоўны твор на сваім месцы), Вінаградаў («Милость мира») — Расейцы, як расейскія і іншыя расьпевы знаменнага й абыходнага стылю, што суправаджаюць іх. Яны даюць дэкаратыўны фон да набожных малітваў архіерарха, але пакідаюць без адказу ўсё больш жыцьцёвае пытаньне: куды йдзе царкоўная музыка ў Беларусі?

Яшчэ ў 1960 годзе найвыдатнейшы, бадай, беларускі царкоўны кампазытар на эміграцыі Мікола Куліковіч-Шчаглоў пісаў у «Бацькаўшчыне» (№ 1-2, 6 студзеня): «Ці ня час закрануць пытаньне?» і пытаўся, ці не надыйшоў час зьмяніць рэпэртуар з твораў Архангельскага, Турчанінава й Сарты на творы беларускіх кампазытараў — Туранкова, Равенскага, Анцава ды іншых. Разьвіваючы свае ідэі ў тым самым годзе («Пытаньне беларускае багаслужбы», «Б-на» № 12-13, 25.III.60) Куліковіч-Шчаглоў пісаў: «Пытаньне рэформы беларускага царкоўнага сьпеву, як я гэта разумею, падзяляецца на дзьве часткі: 1. наяўнасьць, стварэньне, пашырэньне й падтрымваньне беларускіх царкоўных кампазытараў; 2. зьбіраньне, укладаньне й выданьне Беларускага Васьмігалосьніка-Абыходу». Ён назваў беларускіх царкоўных кампазытараў, творы якіх павінны ўвайсьці ў *багагласнік* і якія павінны сьпявацца ў часе літургіі заміж «канцэртаў« і запрычасьнікаў. Кампазытары, паводля Куліковіча, павінны зварачацца да народнае музыкі барджэй як да зацяжных *прыдворных* мадэляў. А перш-наперш старыя згубленыя *ірмалоі* зь 17-га й 18-га стагодзьдзяў трэба знайсьці й выкарыстаць для распрацаваньня запраўднай беларускай 8-танальнай сыстэмы на замену чужое *абыходнае* сыстэмы, накінутае генэраламі Львовам, Бахмецьевам і Мураўёвам. Каб праілюстраваць сваю прапанову, Куліковіч-Шчаглоў зрабіў рад гарманізацыяў старых мясцовых напеваў зь 17-га ст., — слуцкага, жыровіцкага, віленскага, беларускага, — што трапіліся яму ў рукі зь беларускага ірмалою ў бібліятэцы Ўкраінскае АН; яны былі пасьля выдрукаваныя ў сэрыі «Беларускі Царкоўны Сьпеўнік» (Лёндан, 1979).

Дзякуючы знахадкам Ясіноўскага ў савецкіх бібліятэках 25 беларускіх *ірмалояў*, будучы беларускі Кастальскі або Хрыстыч (сербскі рэфарматар) здолеюць стварыць запраўдны корпус беларускіх царкоўных сьпеваў і, магчыма, апрацаваць нацыянальны Васьмігалосьнік-Абыход, як прапанаваў Куліковіч-Шчаглоў.

Тымчасам дзякуючы ініцыятыве Беларускае Мітраполіі і Л. Ракіцкаму ды ягонаму цудоўнаму хору, мы можам спадзявацца нарэшце мець доступ да наяўнага рэпэртуару Беларускае царкоўнае музыкі і лепш азнаёміцца зь відавочна важнай і квітнеючай галіной нацыянальнае спадчыны.

І тым ня менш далейшая эвалюцыя царкоўнае музыкі ў Беларусі застаецца праблематычнай у моц характару праваслаўнае Царквы там: царква на Беларусі становіць неадлучную частку Расейскай Праваслаўнай Царквы, як гэта й стараецца падкрэсьліць Мітрапаліт Філарэт у сваім уводным слове на пачатку альбому. Наколькі гіерархія Маскоўскага Патрыярхату гатовая дазволіць царкве на Беларусі вярнуцца да свае запраўднае літургічнае практыкі? Мітрапаліт сам не Беларус і, магчыма, яму наканаваная вышэйшая пасада недзе ў іншым месцы. Ён, як агульна ўважаецца, глядзіць на Беларусь барджэй як на адміністрацыйную адзінку, а не этнічную, і мала хто з афіцыйных асобаў у Сьвятадухаўскім катэдральным саборы ў Менску, як выглядае, карыстаецца беларускай мовай. Як відаць таксама з кружэлкі, выраз «беларускія царкоўныя кампазытары» абыймае і гэткіх кампазытараў, як Бутома ў Гомелі, не абавязкава Беларус, а пад паняцьцем «Беларусі» разумеецца прастора ў межах сучаснай БССР. Гэткія паняцьці вядуць да абсурднага палажэньня, у якім і супрасьлеўскі *ірмалой* (1598-1601) і вядучы беларускі царкоўны кампазытар Мікола Куліковіч-Шчаглоў не знаходзяць месца ў вянку беларускай рэлігійнай культуры.

У запраўднасьці палітыка ў галіне царкоўнае музыкі, разам зь іншымі справамі, устанаўляецца ў Маскве. «З устанаўленьнем патрыяршаства ў Расеі (1917), — піша вядучы маскоўскі хормайстар Мікалай Мацьвееў, — духоўна-музыкальная самабытнасьць і багаслужэбны сьпеў Расейскай Праваслаўнай Царквы цьвёрда ўзыйшлі на шлях строгага нацыянальнага стылю, які выключае ўсякія выкрутасы, штучнасьць, саладжавасьць». Гэткая пазыцыя даволі прыймальная, калі яе прыкладаць да Расеі. Наколькі адпаведна яна можа ўжыцьцяўляцца ў царкоўных сьпевах на Беларусі і на Украіне, дзе стагодзьдзямі, як паказалі ў сваіх досьледах Ясіноўскі й Канатоп, існавалі незалежныя традыцыі царкоўнае музыкі, застаецца праблематычным. Паводля аднаго меркаваньня, пастулят Мацьвеева прывядзе да ўзмацненьня працэсу русыфікацыі, якая трывала 150 гадоў, з тым, што расейскі знаменны расьпеў і гарманізацыя, заснаваныя на расейскім фальклёры, выцісьнуць мясцовыя напевы, у тым ліку й бліскучы барок Бутомы ды іншых. Паводля іншага меркаваньня, бліжэйшага, бадай, паглядам цудоўнага Мікалая Васілевіча (Мацьвеева), праваслаўным хорам даецца накіраваньне да свае нацыянальнае спадчыны, каб зь яе чэрпаць ўзбагачаньне шматстайнае бізантыйскае традыцыі.

У сьвятле незварачальнага, як выглядае, працэсу галоснасьці й перабудовы трэба глядзець з надзеяй на студэнтаў Менскае кансэрваторыі і багаслоўскіх акадэміяў, спадзяючыся, што яны возьмуць на сябе справу забясьпечаньня эвалюцыі царкоўнае музыкі ў кірунку да «самабытнасьці й нацыянальнага характару». Альтэрнатывай тут — сьмерць.

**Гай Пікарда**

# ЯЛІНКА І КАЛЯДНАЯ ПРАГРАМА

У чыкагаўскім Музэі Навукі і Індустрыі ад 25-га лістапада летась да 3-га студзеня сёлета трываў Калядны фэстываль. Больш за сорак этнічных групаў узяло ўдзел у гэтай імпрэзе. Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага ўжо адзінаццаць гадоў узапар выстаўляе сваю ялінку на гэтым фэстывалі ды восем гадоў як дае калядную праграму.

Гэтым разам ялінка была папоўненая новымі, непаўторнымі рознакаляровымі саломкавымі арнамэнтамі, нарыхтаванымі сп-няй Людвікай Беленіс. Ялінку ўдала прыбралі сп-тва Людвіка й Антон Беленісы, сп-ні Аўгеня Беленіс ды Валя Мазура.

Трэйцяга сьнежня адбыўся ў музэі паказ сцэнічнай п'ескі «Каляды ў Беларусі», напісанай паангельску Верай Рамук. Янка Рамук паінфармаваў публіку аб нашай краіне, ейным геаграфічным палажэньні (для лепшай нагляднасьці двое дзяўчатак у народных касьцюмах выйшлі на сцэну з картай Беларусі), расказаў аб калядных традыцыях, звычаях, куцьці, варажбе і г.д.

У сцэнцы, што прадстаўляла беларускую хату ў калядны вечар, згадвалася пра 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі, а таксама была сказаная малітва за памыснасьць зьняволенага беларускага іншадумца Міхала Кукабаку.

У п'есцы выступаў таксама й «Амэрыканец», які быўшы на Беларусі і трапіўшы з прычыны вялікай кудасы (мяцеліцы) ў беларускую сям'ю за сьвяточны стол, расказаў аб калядных звычаях у Амэрыцы і прапяяў калядку «White Christmas». Усьлед за гэтым дзьве дзяўчынкі пратанцавалі «Лянок», а цэлая «сям'я» выканала карагод «Цароў сын каралёў».

Праграму закончылі калядоўшчыкі зь вялікай зоркай, прапяялі чатыры беларускія калядкі (пад акампанімэнт а. Язэпа Сыру на фартапіяне).

Публіка ўзнагародзіла ўсіх выканаўцаў бурнымі воплескамі. Былі вельмі прыхільныя водгукі аб нашай праграме.

Музэй сёлета нарыхтаваў фігуры Сьв. Мікалая ў чалавечы рост, паводля апісаньняў некаторых групаў, што бралі ўдзел у фэстывалі. На гэтым месцы ветліва зварочваемся да нашых мастакоў, каб зрабілі замалёўку беларускага Дзядулі-Каляды ў характэрнай для яго вопратцы, згодна зь беларускай традыцыяй, ды прыслалі не пазьней як першага чэрвеня сёлета на адрас:

Bielarusian Coordinating Committee
of Chicago
P.O. Box 34022
Chicago, Ill. 60634

Мы таксама маем намер выставіць свайго Дзеда ў наступным калядным фэстывалі, які адбудзецца ў тым-жа музэі.

Шчырая падзяка за ўдзел у нашым сьвяткаваньні належыцца сп-тву Людвіцы і Антону Беленісам, сп-ням Аўгені Беленіс і Валі Мазура, Веры Рамук, Янку Рамуку, др. Элу Таліверу, Мішэль Кэр, Лёрэнцу Мірабілі, Мэлісе Сенкевіч, Сэры Вайманк і праф. Анджэлё Монтэлеонэ; калядоўшчыкам: Марце Дыкс, Клеры Куяве, Але Барашкевіч, Аніце Назорак, Люсі Кулагін і Тарэсе Тарасэвіч, Паўлу Брушкевічу, Джані Кэр, а. Язэпу Сыру, а таксама Нікадэму Жызьнеўскаму, др. Анатолю Занковічу, Ірэне Талевэр і Юзі Тарасэвіч.

**Др. Вітаўт Рамук**

**Ад Рэдакцыі:** Цікавае супадзеньне: у той дзень, калі Беларусы Чыкага маліліся за памыснасьць іншадумца Міхася Кукабакі (гэта быў дзень ягонага нараджэньня), Кукабаку — для яго нечакана-неспадзявана — выпусьцілі на волю зь Пермскага лягеру прымусовае працы.

# СКАРЫНА І… ДЫНАЗАЎРЫ

У сувязі з скарынаўскім юбілеем (500-годзьдзе нараджэньня) у БССР частыя цяпер публікацыі пра Ф. Скарыну. Яны вельмі розныя й якасьцяй, і зьместам. У леташнім лістападаўскім нумары «Полымя» надрукаваныя фрагмэнты вершаванага твору Міколы Арочкі «Судны дзень Скарыны», з падзагалоўкам «Фрэскі драматычнай паэмы». У уводных заўвагах да гэтых «фрэскаў» аўтар кажа: «некалькі гадоў жыву Ф. Скарынам, размаўляю зь ім. Спрабую выклікаць ягоную постаць… Народжаны 500 гадоў таму назад пад знакам Адраджэньня… (ён) горача і мудра прамаўляў да розуму і сэрцаў сваім нашчадкам…».

Як Скарына ў творы Арочкі «прамаўляе», відаць асабліва яскрава з словаў ягонага Скарыны, калі той знаходзіцца ў вязьніцы пазнанскага магістрату і разважае: «Дзе ты, вясна мая» (прыгадаем тут пушкінскае «Куда, куда вы удалились, весны моей златые дни»). Далей-жа Арочкаў Скарына «прамаўляе»: «Цямнее ўвачччу… Ці гэта хмары выпісваюць за кратаю аблічы істотаў выкапнёвых — дыназаўраў, хвастатых жывацін з галоўкай дробнай… Пачвараў розных… На зямлі бацькоў яны цяпер хіба перавяліся». Далей: «Вунь крывянеюць ля ног канквістадораў землі Інкаў, Ацтэкаў… Хіжыя лупежцы скарбаў на кубамэтры мераць золата!..» А пасьля: «мацарствам розным… чужыя землі… захопліваць і прыкрывіць дзікунскую паквапнасьць і захоп! Замешваць на крыві хлусьню яднаньня!» І яшчэ словы аўтара вуснамі ягонага Скарыны: «Шукаю antidotum ад рабунку гісторыі і памяці людзей… Шукаю antidotum — супроць слёз дзяцей асірацелых, плачу матак, людзей, што гоняцца на гвалт як статак…».

Дык у Арочкавага Скарыны, у візіях Скарыны ў вязьніцы, спляліся ў адно і францускія канца XVIII ст. кубамэтры, і пушкінская паэзія, і дыназаўры (сьведамасьць пра якіх і іхны назоў — дыназаўры — існуюць толькі ад другой паловы XIX ст.), і жудасьці падменскіх Курапатаў. Не пра землі Інкаў ці Ацтэкаў, пра якія Скарына напэўна яшчэ нічога ня чуў і ня ведаў, але хіба пра землі свае, тыя, дзе сёньняшнія Курапаты, трывожыўся ў сваіх думах патрыёт Скарына.

**Р. М.**

## «ЯК МЯНЕ АДВАДЖВАЛІ АД 'ТАЛАКІ'»

Гэткі загаловак мае сатырычная паэма Паўлюка Задзірастага, выданая летась у Менску самвыдавецкім спосабам. Першую частку гэтага выдатнага твору прачытаеце ў наступным нумары «Беларуса».

*З жыцьця ў Кліўленьдзе*

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

Адзначэньне 68-х угодкаў Слуцкага паўстаньня адбылося 13 лістапада летась. Пасьля багаслужбаў адпраўленых прат. М. Страпком у царкоўнай залі адбыўся супольны памінальны абед. Кіраўнік вэтэранаў лейт. Янка Каваленка адкрыў акадэмію, падкрэсьліўшы значэньне ўгодкаў. У часе хвіліны цішы сп-ні Тацьцяна Кананчук і Іра Каляда-Сьмірнова ўзлажылі вянок на сымбалічнай магіле пад сьпеў жалобнага маршу «Сьпі пад курганам гэрояў».

Галоўным дакладчыкам на ўрачыстасьці быў сп. Мікола Ганько з Таронта, які зрабіў добры аналіз беларускага змаганьня за незалежнасьць, пачынаючы ад упадку Вялікага Княства Літоўскага. Былі прывітаныя госьці ды прачытанае пісьмовае прывітаньне ад каманьдзера вэтэранаў маёра С. Гутырчыка. З прамовай выступіў старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, падкрэсьліўшы важнасьць Слуцкага паўстаньня.

У мастацкай частцы, узбагачанай талентамі зь Беласточчыны, выступілі сьпявак Юрка Мазурук, дэкляматары Валя Лаеўская й Міраслаў Цялушэцкі. Мяшаны хор пад акампанімэнт Олі МкДэрмат (Дубаневіч) прасьпяваў тры песьні.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну. Сьвяткаваньне было добра зарганізаванае, зь цікавым рэфэратам, шырэйшай мастацкай часткай ды вялікім лікам удзельнікаў. Падзяка належыцца кіраўніцтву вэтэранаў й жанчынам за добрае наладжаньне абеду.

## СПАТКАНЬНЕ НОВАГА ГОДУ

Кіраўніцтва грамадзкага цэнтру «Полацак» ладзіла спатканьне Новага Году ў залі грамадзкага цэнтру. Залю прыгожа ўдэкаравалі сям'я Кабякаў, Валя Лаеўская й Юрка Мазурук. Імпрэза пачалася супольнай вячэрай. У часе перапынкаў паміж танцамі сьпявалі калядныя й народныя песьні, а калі прабіла поўнач, усе голасна й весела вішнавалі адзін аднаго новагоднімі жаданьнямі. У канцы імпрэзы кіраўніцтва Полацку прывітала ўсіх, пажадала добрага здароўя і ўдачы ў грамадзкай працы.

Падзяка належыцца арганізатарам, а таксама Марыі Шавейка ды сп-тву Олі й Андрэю Стрэчаням за наладжаньне добрае вячэры.

## СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ

Як ужо ўвайшло ў традыцыю, парафіяльная рада царквы Жыровіцкае Божае Маці штагоду ладзіць супольную куцьцю беларускае калёніі ў Кліўленьдзе. Гэткая куцьця і адбылася 6 студзеня сёлета, прыгатаваная паводле традыцыяў з Бацькаўшчыны. Стол быў засланы сенам, збоку стаяла упрыгожаная ялінка і на стале былі расстаўленыя 12 посных страваў з запаленымі сьвечкамі. Царкоўны хор з прысутнымі прасьпявалі трапар Раства Хрыстовага, а духавенства блаславіла куцьцю і ўсе селі за сталы. У часе вячэры дзяліліся ўспамінамі пра традыцыі ў розных частках Беларусі, сьпявалі калядныя песьні. Хоць гэта быў працоўны дзень, аднак людзей сабралася даволі шмат (каля 60 асобаў). Падзяка належыцца духавенству, парафіяльнай радзе, а за прыгатаваньне традыцыйнае куцьці — Валі Яцэвіч, Олі й Андрэю Стрэчаням.

**К. П.**


*Частка дзяцей беларускай калёніі ў Кліўленьдзе ў часе каляднае праграмы.*


*Калядоўшчыкі ў часе каляднай праграмы для дзяцей.*

## ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У сыботу 7 студзеня 1989 году ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе была ўрачыста адслужаная калядная Літургія зь вялікаю колькасьцю вернікаў — старэйшых, моладзі й дзяцей. Пасьля службы адбылася ялінка для дзяцей, якую штагоду ладзіць парафіяльная рада.

Праграма ялінкі ў параўнаньні з папярэднімі гадамі была шмат пашыраная, складалася з песьняў, танцаў і пастаноўкі ў выкананьні дзяцей.

Праграму адкрыў старшыня парафіяльнае рады С. Карніловіч. Царкоўны хор з прысутнымі прасьпявалі трапар раства Хрыстовага. Затым прывіталі Дзеда Мароза (Міша Дунец), які, прывітаўшы дзяцей, сеў каля ялінкі з падарункамі й глядзеў паказ. У праграме былі: танец «Лявоніха» пад акампанімэнт Олі МкДэрмат (Дубаневіч) у выкананьні дзяцей у веку 6-12 гадоў; калядка «Саўка ды Грышка» у выкананьні малышоў (можна было нават ўсе словы зразумець); царкоўны хор з зоркаю (зробленай Толікам Лук'янчыкам); дзіцячая пантаміма «Нараджэньне Хрыста» (Оля Лукашэвіч — апавядальніца); амэрыканская калядка (пад акампанімэнт Лізы Альдрэтэ на флейце). Праграму закончыў Дзед Мароз, узнагародзіўшы ўсіх дзяцей падарункамі ад парафіі і ад бацькоў.

Трэба прызнаць, што сёлетняя праграма была добра падрыхтавана, выкананая наймалодшым пакаленьнем, што дало гледачом вялікае задаваленьне.

Бязумоўна, шмат працы было ўложана ў зьбіраньне дзяцей, якіх аказалася 40 у гадох да 15-ці. Вялікую працу ў плянаваньне й выкананьне гэтае праграмы ўлажылі маладыя маткі дзяцей, якія раней былі ў арганізацыі моладзі: Оля МкДэрмат (Дубаневіч), Маруся Альдрэтэ (Каваленка), Рагнеда Новак (Дунец), Юля Рычардсон (Дубаневіч). Таксама дапамагалі ў часе праграмы: Валя Гэй (Гарох), Хрыстына Каваленка, Ірэна Страпко, Аля Страпко. Усім ім належыцца падзяка, як і моладзі, якая падтрымала матар'яльна й пакрыла ўсе выдаткі, зьвязаныя з праграмай, строямі, а ў канцы зрабіла прыняцьцё дзецям.

Трэба спадзявацца, што кіраўнікі гэтае імпрэзы, зрабіўшы добры пачатак, павядуць гэтую працу далей і ўзмоцняць жыцьцё беларускае калёніі ў Кліўленьдзе.

## КАЛЯДОЎШЧЫКІ

У нядзелю 8-га студзеня Беларусы зь Беласточчыны запрапанавалі ўсім супольнае калядаваньне. Многія на чале са сьвятаром а. Якубам ахвотна да іх прылучыліся і ўсе разам аж да позьняга вечара наведвалі з каляднай песьняй хаты Беларусаў. Усюды сустракалі калядоўшчыкаў зь вялікай гасціннасьцю і ахвярнасьцю. Асабліва трэба назваць імёны спадарства Олі й Андрэя Стрэчаняў. Сабраныя грошы будуць пераказаныя на пабудову Беларускага ліцэю ў Гайнаўцы ды на царкву ў Ячне, што на Беласточчыне.

**К. П.**

## ПЕРАВЫДАНАЯ ПРАЦА ПРА АКТ 25 САКАВІКА

Праца сьв. пам. Аўгена Калубовіча «Акт 25-га Сакавіка й Адраджэньне Нацыянальнай Беларускай Культуры» выйшла летась асобным выданьнем у Беластоку ў выдывецтве імя У. Ігнатоўскага.

## «КАНТАКТ» — НОВЫ ЧАСАПІС

Падзагаловак гэтага неафіцыйнага выданьня — **«Шляхі беларускай думкі»** — паказвае, што выдаўцы (пра якіх нічога не сказана, як не пададзенае й месца выданьня) паставілі сабе за мэту адлюстроўваць і накіроўваць беларускую палітычную й грамадзка-культурную думку. Пра іхны намер добра сьветчыць абведзены рамкай дэвіз-заклік: *«Вер у будучыню Беларусі, у адраджэньне твайго народу! Ня дай нікому вырваць зь цябе гэтую веру, нягледзячы на ўсё, што было і будзе. Жыві так, як быццам будучыня і лёс Беларусі залежалі толькі і выключна ад цябе, як быццам толькі ты адказваў за гэта».*

У ўводным слове «Ад рэдакцыі» сказана пра сучасны стан на Беларусі:

«Гістарычная задача ратаваньня Беларусі ад нацыянальнай сьмерці ўсьведамляецца ня толькі патрыятычнымі сіламі рэспублікі, але і ўсяго беларускага этнічнага абшару — Беласточчыны, Віленшчыны, Смаленшчыны і Дзьвіншчыны, а таксама суродзічамі на чужыне.

«З гэтых асяродзьдзяў выйшла ініцыятыва стварэньня незалежнага часапісу КАНТАКТ, як форуму беларускай палітычнай думкі. Асноўная мэта КАНТАКТУ — садзейнічаць умацаваньню сувэрэнітэту Беларусі і пашырэньню адраджэнскага руху».

У нумары, які выйшаў напрыканцы году летась, а датаваны 1989 годам, на 32-х старонках друку зьмешчаныя дакумэнты сучаснага беларускага руху ў БССР, артыкулы, агляды, сатырычная паэма. Некаторыя матар'ялы перафатаграфаваныя, як прыкладам, Маніфэст Рады БНР да 70-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі (з газэты «Беларус»).

Актуальная тэма закранутая ў артыкуле беларускага гісторыка з Варшавы Юр'я Туронка — «'Кожны чацьвёрты' і Курапаты». Цікавы артыкул Віктара Мароза «Польская апазыцыя і беларускае пытаньне ў ПНР».

## «НЕФАРМАЛЬНЫЯ БЕЛАРУСЫ»

*(Заканчэньне з 4-ай б.)*

***А. Гуркоў***: Нам памагаюць партком і камітэт камсамолу інстытуту. Перашкаджае пасыўнасьць людзей і страх, «як-бы чаго ня выйшла з гэтых Беларусаў».

***С. Вітушка:*** Перашкаджае Палажэньне аб дзейнасьці самадзейных клюбаў. Яно — бюракратычнае. Яно дазваляе ствараць клюбы, але толькі з чыёйсьці згоды. (...)

***Адам Глобус*** *[карэспандэнт часапісу «Крыніца», пісьменьнік]:* Нейкі ананім, мітычны «Наш кар.» у «ЛіМе» перашкаджае. Бюро прапаганды Саюзу Пісьменьнікаў і рэдакцыя паэзіі выдавецтва «Мастацкая літаратура» перашкаджаюць. (...) Памог канкрэтна галоўны рэдактар таго-ж «ЛіМу» А. Вярцінскі, які надрукаваў інфармацыю аб стварэньні «Тутэйшых» і першую падборку твораў Таварыства.

***Вінцук Вячорка*** *[сябра «Талакі», выкладчык пэдінстытуту]:* Як правіла, нам памагаюць сумленныя і сьмелыя людзі, якія разумеюць, што нефармальны рух — гэта аб'ектыўная дадзенасьць, што ён узьнік не выпадкова.

*«Нефармалы» — хто вы? — «Нёман» № 6, 1988.*

ХТО НЯ ПЛАЦЕ, А ЧЫТАЕ, ГЭТЫМ НАМ НЕ ПАМАГАЕ!

### «ПАСТАЛЕНЬНЕ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ»

Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны артыкул Масея Сяднёва ў кнізе, прысьвечанай праф. Зоі Юр'евай: **STUDIES IN SLAVIC LITERATURES AND CULTURES** in Honor of ZOYA YURIEFF. Edited by Munir Sendich. Published by the Russian Language Journal. East Lansing, Michigan, USA. 1988.

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

Станунь другія, прыйдуць другія,
прыйдзе той час —
за ўсіх, хто загінуў, за ўсіх, хто гіне,
асудзяць вас!»

Крывіць Цанаву, вушам ня верыць:
«Ня можа быць! —
Шкілет-жа толькі —
І ня дрыжыць!..»

І чэх направа муньдзір папраўіў,
пайшоў брахаць
недзе аж з Прагі. Што-ж, нам адвагі
не пазычаць!

Глядзі, прадажны, — можа раскажаш
калісь камусь,
як Чайкі нашы стаяць прад сьмерцю
за Беларусь!

* * *

Холад і голад, допыт і тупат,
смутак як нож.
Дзе ты, сынок мой? Няўжо-ж і малога
мучаць, няўжо-ж?..

Крыкнуць-бы мужу ў вязьніцы менскай:
«Дружа, бывай!
Жыла я зь песьняй, канаю зь песьняй
за родны край.»

Не, я ня крыкну. Няхай ня знае,
няхай жыве,
можа стрывае, перачакае,
пераажыве...

Разам нарэшце ворагі судзяць,
разам дваіх,
па горле лязом тнуць злыя фразы.
Пляваць на іх!

Краты, канвоі... Сэрцу так цесна —
дрыжу уся,
ворагі судзяць мяне парасейску,
як Кастуся!

Дзіва — шкілетам хапае сілаў.
Канвой здалёк.
«Такі худы ты, сівы, мой мілы,
як галубок».

«Дарыць дарункі табе ў жыцьці я
тады прывык,
прымі ад сэрца усё, што маю, —
гэты часнык...»

* * *

Край мой любы, войнамі змучаны,
Над народам сьмяротны цень...
Моладзь споена, моладзь атручана —
Ці падымеш Цябе з калень?

Адным — чарку, другім — у партыю,
Толькі-б нечым зацiснуць рот.
А дзе-ж тыя, чагосьці вартыя,
Што стаялі-б за свой народ?

Шкода вас, хлусьнёй заняволеных...
Мовы роднае ня чуваць.
Можна збожжа прадаць, жывёліну,
А ці можна душу прадаць?

Ня было нам ніколі соладка,
Горда ўмелі мы боль стрываць.
Можна хату прадаць і вопратку,
А ці-ж можна Маці прадаць?

## ДАПАМОГА СУРОДЗІЧАМ

**Справаздача**

За два мінулыя гады ў касу Дапамаговага Камітэту паступіла ахвяраў на агульную суму 1661 даляры. За гэтыя грошы было выслана: 21 пачка з вопраткай, 6 з кавай, 21 грашовы пераказ, машынка да пісаньня, лекі, ноты, кніжкі (уключна з Новым Тэстамэнтам), грошы студэнтам.

У 1985-86 гг. Дапамаговы адзьдзел у Лёс-Анджэлесе выслаў на Беласточчыну 16 пачак. Ахвяры злажылі Б. Вініцкая, К. Вініцкая, І. Арцюх і Ю. Найдзюк.

Летась на перасылку кружэлак і касэтак сп. Я. Запруднік ахвяраваў 40 даляраў.

На дапамогу музыкам на Бацькаўшчыне склалі ахвяры:

| | |
|---|---|
| К. Мерляк | дал. 10 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| В. Кіпель | 20 |
| С. Карніловіч | 20 |
| Я. Запруднік | 20 |
| А. Шукелайць | 20 |
| Адзьдзел БАЗА | 100 |

На дапамогу суродзічам на Беласточчыне:

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | 140 |
| Ю. Андрусышына | 20 |
| Я. Каханоўская | 20 |
| А. Шукелайць | 30 |
| Я. Запруднік | 25 |
| Жан.Сэкц. БАЗА ў Н.-Дж. | 100 |

Са спазьненем, за што выбачаемся, падаём ахвярадаўцаў з 1987 году:

| | |
|---|---|
| Я. Юхнавец | 12 |
| Я. Запруднік | 40 |
| А. Шукелайць | 80 |
| Р. Станкевіч | 92 |
| З. Станкевіч | 32 |
| Ю. Андрусышына | 40 |
| Др. М. Смаршчок | 25 |
| Е. Норык | 30 |
| Н. О. | 25 |
| Др. У. Набагез | 100 |
| А. Адамовіч | 120 |
| К. Мерляк | 10 |
| В. Станкевіч | 5 |

Усім — шчырая падзяка!

**А. Орса-Рамана**
**В. Бартуль**
**Ю. Андрусышына**

### *ПАПУЛЯРНАСЬЦЬ ДАНЧЫКА*

Газэта «Чырвоная Зьмена» пад канец году летась правяла «парад папулярнасьці» — апытаньне сваіх чытачоў, хто і што ім найбольш падабаецца. У катэгорыі замежных сьпевакоў Данчык заняў другое месца, на першым — Амэрыканец Майкл Джэксан.

### ВЫСТАЎКА

Творы беларуска-амэрыканскіх і замежных (зь Беларусі) мастакоў і народнага мастацтва будуць выстаўленыя

ў БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ
У САЎТ-РЫВЭРЫ
**ад 26 сакавіка да 9 красавіка.**

Адкрыцьцё выстаўкі ў нядзелю 26 сакавіка а гадз. 3-й папаўдні. Ветліва запрашаем усіх!

**Мастацкі Клюб**
**у Нью-Джэрзы**

## *НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД*

*Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва атрымалі ахвяры:*

| | |
|---|---|
| Л. і А. Бяленіс | ам.д. 500 |
| М. і В. Махнач | 100 |
| Р. Завістовіч | 40 |
| М. Грэбень | 40 |
| К. Шэлест | 25 |
| А. і Н. Непейн | 20 |
| В. і Л. Кажан (у памяць с.п. А. Стагановіча і В. Жук Грышкевіча) | 60 |
| В. і З. Кіпель у памяць с.п. В. Жук-Грышкевіча | 50 |
| В. Гушча | 16 |
| Разам | 851 |

## СЬВ. † ПАМ.
## ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

Былы Старшыня Рады БНР, актыўны сьветка Сакавіковых (1918 г.) падзеяў, пэдагог і грамадзка-культурны дзеяч часоў Заходняй Беларусі, палітычны вязень савецкіх турмаў і канцлягероў, удзельнік збройнага змаганьня на баку заходніх аліянтаў у гадох Другое сусьветнае вайны (армія ген. Андэрса), арганізатар беларускага грамадзкага жыцьця на эміграцыі (Ангельшчына і Канада), ініцыятар многіх грамадзка-нацыянальных праектаў, пахаваны на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку, Н.-Дж., ЗША, аб чым з глыбокім сумам паведамляюць і ўдаве нябожчыка, др. Раісе Жук.-Грышкевіч, глыбокае спачуваньне выказваюць

**Прэзыдыюм і Сакратарыят**
**Рады БНР**

Сэктар рады БНР у гор. Кліўленьдзе, Агаё, выказвае глыбокі жаль з прычыны сьмерці былога Старшыні Рады БНР

## СЬВ. † ПАМ.
## ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

шматгадовага й заслужанага нацыянальнага дзеяча, які пакінуў па сабе глыбокі сьлед у гісторыі беларускага адраджэньня, ды выказвае глыбокае спачуваньне сям'і нябожчыка.

## СЬВ. † ПАМ.
## ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

Сэктар Рады БНР у Нью-Джэрзы (ЗША) з глыбокім сумам паведамляе пра сьмерць былога Старшыні Рады БНР, выдатнага беларускага палітычнага і грамадзкага дзеяча, які адыйшоў у вечнасьць на 87-м годзе жыцьця ў гор. Бэры ў Канадзе, ды выказвае шчырае спачуваньне жонцы памерлага др. Раісе Жук-Грышкевіч і ўсім сваяком.

Вечная памяць.

## СЬВ. † ПАМ.
## ВІНЦЭНТ ПАЛАНЕВІЧ

23 лютага 1989 г. ў Флярыдзе, у выніку неспадзяванага сардэчнага прыпадку, адыйшоў на вечны супачынак, пра што з глыбокім сумам паведамляюць

**Сям'я і крэўныя нябожчыка**

### УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ В. ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА

У часе лекцыі, што адбылася 16-га лютага сёлета ў праграме 23-га акадэмічнага году Англа-Беларускага Таварыства ў Лёндане («Каталіцкая Царква ў Заходняй Беларусі», лектар а. А. Надсон) старшыня АБТ праф. Дж. Дынглі паведаміў аб сьмерці сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, зазначаючы, што нябожчык быў першым старшынём Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, а пасьля Старшынём Рады БНР. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць памерлага. Праф. Дынглі зачытаў спачувальны ліст удаве др. Раісе Жук-Грышкевіч ад АБТ.

Лекцыя а. Надсона была грунтоўна ўдакумэнтаваная й вельмі цікавая.

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫЯ ВЫРАЗКІ

Газэтныя выразкі й ксэракопіі з матар'яламі пра Беларусь нам прыслалі наступныя асобы: Я. А., Б. Нагорны, Я. Міхалюк, У. Акавіты, В. Мельяновіч, Л. Стагановіч, В. Рамук, В. Сянькевіч, Ул. Набагез, Ч. Найдзюк, Т. Кольба, В. С., Л. Шурак, В. Яновіч, М. Лужынскі, Б. Даніловіч, А. Асіпчык, М. Грэбень, Я. Сажыч, А. Непейн, Ю. Станкевіч, М. Шведзюк, М. Раецкі, М. К., В. Міцкевіч, А. Міцкевіч, Б. Пайке, Г. Паланевіч, У. Бакуновіч, С. Карніловіч, Р. Тамушанскі, Я. Місюль, З. Смаршчок, А. Лашук.

Усім шчырая падзяка!

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### ЭТНІЧНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Да 10-га сакавіка можна зарэгістравацца на ўдзел у трэйцім Этнічным Фэстывалі, які адбудзецца 8 красавіка ў гор. Глясборо ў Глясбораўскім Штатным Каледжы. У праграме фэстывалю: сцэнічныя паказы, выстаўкі мастацкіх вырабаў, адукацыйныя і культурныя стэнды, ежа.

Сталы даюцца задарма. Удзельнікам часткава будуць зьвернутыя выдаткі на падарожжа. Па фармуляры ды інфармацыю зварачацца да:

Juan Simonson, Director
Office of Ethnic Affairs
New Jersey Department of State
State House, CN 300
Trenton, N.J. 08625
Tel.: (609) 984-7145

### ПОМНІК АХВЯРАМ СТАЛІНІЗМУ

Урад БССР пастанавіў увекавечыць памяць ахвяраў масавых рэпрэсіяў 1937-1941 гадоў (Курапаты і іншыя месцы масавага нішчэньня людзей). Створаная ўрадавая камісія для ўстанаўленьня фактаў расстрэлаў і належнага ўдакумэнтаваньня. Будзе праведзены адкрыты конкурс на праект помніка. У выдавецтве «Бел. Сав. Энцыклапэдыя» выйдзе даведнік пра ахвяры рэпрэсіяў 1930—50-х гадоў.

(Паводле афіцыйнай пастановы СМ БССР, «ЛіМ», 27.I.89).